БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

17 снежня 1994 г.
Субота
№ 136(13853)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года


У НУМАРЫ:






Малюнак І.АМЕЛЬЯНОВІЧ.




*У Мінску адбыўся паказ калекцый адзення трох цэнтраў моды — "Ніна Рычы", "Тэд Лапідус" і "Беларускі цэнтр моды". Арганізатарамі гэтага яркага прадстаўлення сталі салон "Элегант і прэстыж" і АТ "Беларускі цэнтр моды".*

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.

## ГЭТА ТАКСАМА НАШЫ ДЗЕЦІ

*Стала ўжо добрай традыцыяй праводзіць напярэдадні Новага года дабрачынную акцыю "Нашы дзеці" для дзяцей–сірот, а таксама дзяцей, якія пазбаўлены сямейнага акружэння або апынуліся ў іншых неспрыяльных умовах ці экстрэмальных сітуацыях.*

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь падтрымаў прапанову Міністэрства адукацыі і навукі аб правядзенні напярэдадні 1995 года дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці". Кіраўнікам міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама даручана прыняць удзел у гэтай акцыі, наведаць дзіцячыя дамы, у тым ліку сямейнага тыпу, школы-інтэрнаты, апякунскія (прыёмныя) сем'і, бальніцы, павіншаваць дзяцей з Новым годам, Калядамі, уручыць ім падарункі, пазнаёміцца на месцы з існуючымі сёння праблемамі аховы дзяцінства, знайсці магчымасць іх вырашэння.

## ЯКІМ БУДЗЕ ПАРЛАМЕНЦКІ ТЫДЗЕНЬ?

*Парадак дня пленарнага пасяджэння Вярхоўнага Савета Беларусі ўжо сёння можа быць вызначаны з высокай ступенню дакладнасці. Вядучым пытаннем, відаць, будзе абмеркаванне дзяржаўнага бюджэту на 1995 год. Праект, прапанаваны прэзідэнтам, паступіў у Вярхоўны Савет.*

Дэпутатам, напэўна, трэба будзе таксама абмеркаваць змяненні ў падатковым заканадаўстве. Разгледзець у другім чытанні законы "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь", законапраект аб прэзідэнцтве.

На сесію плануецца вынесці пытанне аб унясенні ў парадак дня даклада дэпутата ад парламенцкай апазіцыі Сяргея Антончыка , які ў апошні час па ўласнаму жаданню змяніў Аляксандра Лукашэнку ў якасці "барацьбіта з карупцыяй".

Магчыма, дэпутатам трэба будзе назначыць дату выбараў у парламент новага склікання. Пакуль арыенціровачным днём выбараў называецца 14 мая.

БЕЛІНФАРМ.

## ПРА ІНДЭКС СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

*Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў лістападзе ў параўнанні з кастрычнікам 1994 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 140,5 працэнта, у тым ліку цэны на тавары павысіліся на 39,2 працэнта, тарыфы на платныя паслугі — на 56,8 працэнта.*

У параўнанні са снежнем 1993 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 15,7 раза.

## З ПАКЛОНАМ ДА... РАГУЛІ

*Як жыццё прыціснула, адразу ўспомнілі пра каня. А цяпер вось і перад рагуляй шапку вобзем: вярніся, карміцелька ты наша! Ды і не толькі самі вяскоўцы набываюць кароў, але і многія гаспадаркі папаўняюць дойны статак. Як, напрыклад, калгас "Зара" Буда–Кашалёўскага раёна.*

Нягледзячы на даволі складанае фінансава-эканамічнае становішча, тут набылі нядаўна 30 цельных цёлак. У бліжэйшы час дойны статак будзе павялічаны ўдвая.

Васіль БАРХАНАУ.

## УЗЫХОД "МАЛАДЗІКА"

*Адначасова з выстаўкай работ настаўнікаў і вучняў сярэдняй школы № 25 у Віцебску адбылася прэзентацыя дзіцяча–юнацкага мастацкага цэнтра "Маладзік".*

Яго аснову складаюць звыш 500 вучняў менавіта гэтай школы, трэцяя частка выпускнікоў якой ужо стала прафесійнымі мастакамі-мадэльерамі, керамістамі. Акрамя выставак, "Маладзік" будзе праводзіць продаж дзіцячых мастацкіх вырабаў ва ўласным магазіне.

Яўгенія ВІЦЬБА.

## ЧАРОЎНАЯ МЭРЫЛІН У МІНСКУ

*Сапраўдных паклоннікаў жаночай прывабнасці чакае сюрпрыз. З 18 па 24 снежня ў сталічных кінатэатрах "Масква", "Кастрычнік", "Аўрора", "Мір" і "Цэнтральны" пройдзе фестываль фільмаў з удзелам Мэрылін Манро.*

Мінчанам будзе прадстаўлена пяць фільмаў, у якіх зорка сусветнага кінематографа знялася ў пяцідзесятых гадах: "Джэнтльмены аддаюць перавагу бландзінкам", "Сёмы год шлюбу", "Як выйсці замуж за мільянера", "Ніягара" і "Займемся любоўю". У апошняй карціне ў дуэце з чароўнай Мэрылін выступіў Іў Мантан.

БЕЛІНФАРМ.

## ЖУРНАЛІСТЫ СУПРАЦЬ СНІДу

*Зараз у свеце жыве каля 16 мільёнаў людзей, якія маюць ВІЧ–інфекцыю, або хворыя на СНІД. У Беларусі іх — 104, сямёра памерла ўжо ад гэтай страшэннай хваробы. Медыцынская грамадскасць свету заклапочана імклівым распаўсюджваннем эпідэміі па планеце і тым, што ў шэрагу краін да гэтай праблемы людзі ставяцца, на жаль, абыякава.*

Заўважана, што большасць насельніцтва атрымлівае звесткі пра СНІД са сродкаў масавай інфармацыі. Важна, каб гэтыя даныя былі дакладнымі, праўдзівымі і не вялі да дыскрымінацыі хворых. Таму вельмі актуальна, што Сусветная арганізацыя аховы здароўя праводзіць спецыяльныя семінары для журналістаў, адзін з якіх днямі адбыўся ў Мінску. Ён праходзіў пад назвай "Праблемы ВІЧ-СНІД".

Вольга ШАЎКО.

## 25 МІЛЬЁНАЎ ДАЛЯРАЎ АД ЗША

*Урад ЗША прыняў рашэнне выдзеліць Рэспубліцы Беларусь гуманітарную дапамогу ў памеры 25 млн. даляраў для пастаўкі прадуктовых і фармацэўтычных тавараў на бязвыплатнай аснове.*

Пра гэта прадстаўнік адміністрацыі ЗША аб'явіў на сустрэчы краін-донараў у Вашынгтоне.

Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## ПРАФСАЮЗЫ ПАГРАЖАЮЦЬ АКЦЫЯМІ

*Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, выконваючы патрабаванні сваіх арганізацый з розных галін народнай гаспадаркі, мае намер ад зваротаў да ўлад перайсці да больш актыўных дзеянняў.*

Рэзкі рост цэн у снежні і плануемае павышэнне платы за жыллё без папераджальных сацыяльных мер выклікаюць абурэнне і пратэст асабліва ў працоўных калектывах. ФПБ папярэджвае: калі ўрад не пойдзе на канструктыўныя перагаворы, то з сярэдзіны студзеня 1995 года пачнуцца агульнарэспубліканскія калектыўныя акцыі ў падтрымку патрабаванняў прафсаюзаў па карэкціроўцы эканамічнага курсу ў бок сацыяльнай абароны працоўных.

## Курсы валют на 16 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 9400 | 9686 | 5978 | 6185 |
| "Прыор" | 9300 | 9500 | 5960 | 6150 |
| "Дукат" | 9400 | 9500 | 6300 | 6200 |

ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР

## *Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

# "Цяпер не тая сітуацыя, якая б абавязвала мяне пакінуць палітыку"

*Універсітэцкі прафесар–фізік Станіслаў Шушкевіч пры ўсёй неадназначнасці адносін да яго даказаў сваё права лічыцца вядомай палітычнай фігурай у беларускай палітычнай іерархіі. Яго адстаўка з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета выклікала нямала газетных публікацый у рэспубліканскай і замежнай прэсе. Яе звязвалі з першым паражэннем дэмакратычных сіл у Беларусі. Адышоўшы ад спікерства, Станіслаў Шушкевіч не пакінуў палітычную арэну.*

*15 снежня яму споўнілася 60 гадоў. Прыняўшы віншаванні, Станіслаў Станіслававіч даў невялікае інтэрв'ю.*

*— Ці змяніліся вашы перакананні і ці ёсць што-небудзь такое, што Вас мучыць?*

— Перакананні не змяніліся, проста маё разуменне многіх рэчаў паглыбілася. Мучэнні я адчуваю, калі не ведаю, як вырашыць якое-небудзь пытанне. Гэта прымушае мяне шукаць крыніцу інфармацыі, вывучаць кола праблем, выдзяляць сутнасць і выходзіць на эфектыўнае рашэнне. Наогул я чалавек забабонны, але скажу, што, на шчасце, мяне нічога не мучыць і я не зведваю мук сумлення.

*— У якой сітуацыі Вы б палічылі для сябе знаходжанне ў палітыцы немагчымым?*

— Цяпер няма той сітуацыі, якая б абавязвала мяне пакінуць палітыку. Яе павінны пакідаць людзі, якія свядома або несвядома зрабілі памылку, што прывяла да цяжкіх вынікаў для многіх людзей. Калі палітык не ўмее гэта адчуваць і можа нашкодзіць, яго маральна-этычны абавязак — адысці.

*— Станіслаў Станіслававіч, Вам сняцца палітычныя сны?*

— Наогул не сняцца. А, можа, я іх забываю. Прыпамінаю толькі два-тры сны.

*— Хацелі б Вы, каб Ваш сын пайшоў у палітыку?*

— Я не стаўлю ніякіх рамак і ўмоў з пункту гледжання, чым яму займацца. Важна, каб чалавек з захапленнем працаваў у любой галіне. На мой погляд, перад тым, як ісці ў палітыку, усё ж трэба мець нейкі жыццёвы вопыт, у чым-небудзь праявіць сябе. Хоць я не выключаю і іншыя варыянты.

*— Як вучоны і палітык, як Вы характарызуеце паняцце "патрыятызм"?*

— Патрыятызм — гэта любоў да людзей, Радзімы. Неабходна разумець, што гэта такое, не падмяняць іншымі назойлівымі паняццямі. Гэта ўменне любіць зямлю, продкаў... Як вытворнае — любіць традыцыі, мову.

БЕЛІНФАРМ.

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Візіт па–суседску

*Урадавая дэлегацыя Украіны на чале з прэм'ер–міністрам Віталем Масолам пабывала ў Мінску.*

Перагаворы прэм'ер-міністраў Украіны і Беларусі і членаў урадавых дэлегацый праходзілі пры зачыненых дзвярах. Пасля завяршэння сустрэчы ў кароткім інтэрв'ю для прэсы было адзначана, што ў асноўным яны датычылі ўмацавання і расшырэння раней існуючага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

Гаворачы аб прыярытэтных напрамках перагавораў, Міхаіл Чыгір падкрэсліў неабходнасць выкарыстання магчымасцей тых галін народнай гаспадаркі, якія вельмі развіты ў абедзвюх дзяржавах. Напрыклад, Украіна зацікаўлена ў імпарце нашых трактароў, ніцей, гадзіннікаў, скуранной сыравіны, лекавых прэпаратаў і іншай прадукцыі. У сваю чаргу Беларусь мае патрэбу ў павелічэнні паставак металапрадукцыі, алею, цукру і г.д. Інакш, паводле слоў Міхаіла Чыгіра, "нашы эканомікі будуць адчуваць жорсткі ўдар і наплыў аналагічнай прадукцыі з Захаду, што ў сваю чаргу адаб'ецца на курсах беларускага рубля і ўкраінскага карбованца".

Аб узаемаадносінах Беларусі і Украіны ішла размова і на сустрэчы ўкраінскага прэм'ера са спікерам беларускага парламента Мечаславам Грыбам. Ад імя спікера ўкраінскага парламента Віталь Масол запрасіў Мечаслава Грыба наведаць Кіеў з афіцыйным візітам ужо 26 снежня бягучага года.

ПАДПІСКА-95

## ХТО ШТО ЧЫТАЕ?

Закончылася падпісная кампанія на І паўгоддзе 1995 года. Газеты паспяшаліся паведаміць яе вынікі. Адно здзіўляе: жаданне некаторых нашых калег бачыць толькі тое, што выгадна для іх.

Напрыклад, "Звязда" ад 14 снежня 1994 года ў сваёй нататцы "Што будзем чытаць у наступным годзе?", паведамляючы пра набраныя тыражы цэнтральных рэспубліканскіх газет, чамусьці "забылася" пра "Чырвоную змену". Ды й некаторыя іншыя выданні незразумела, па якой прычыне ўпарта "не заўважаюць" нашу газету — адну са старэйшых у рэспубліцы. Для сваіх чытачоў паведамляем, што, нягледзячы на сімпатыі ці несімпатыі "Звязды" і іншых, "Чырвоная змена" па-ранейшаму жыве. І мы ўдзячныя тым падпісчыкам, якія выбралі на першае паўгоддзе будучага года нашу газету. Падпісныя тыражы штодзённых рэспубліканскіх выданняў размеркаваліся наступным чынам:

*"Народная газета" — 522.408.*
*"Советская Белоруссия" — 227.408.*
*"Звязда" — 162.840.*
*"Республика" — 150.905.*
*"Белорусская нива" — 114.702.*
*"Знамя юности" — 71.827.*
*"Чырвоная змена" — 31.854.*

Наш кар.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"





*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*


### КЛІНТАН У РОЛІ САНТА КЛАУСА

*У паўночныя штаты ЗША адпраўлены поезд з каляднымі падарункамі для дзяцей.*

У ролі Санта Клауса выступіў сам Клінтан, па ўказанню якога была арганізавана адпраўка падарункаў. Прэзідэнт таксама павіншаваў па тэлебачанні ўсіх амерыканцаў з хуткімі Калядамі.

### ДЭЛОР УЗЯЎ САМААДВОД

*Жак Дэлор вырашыў не вылучаць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца ў Францыі ў наступным годзе.*

Ён меў усе шанцы перамагчы, але сваю адмову тлумачыць тым, што яму ў 1995 годзе спаўняецца 70 год, а таксама ён не змог бы правесці патрэбныя для краіны рэформы. Зараз самымі верагоднымі прэтэндэнтамі на прэзідэнцкую пасаду называюць прэм'ер-міністра Эдуара Баладзюра і мэра Парыжа Жака Шырака.

### АБНАЎЛЕННЕ ЎЛАДЫ

*Новы прэм'ер–міністр Ірландыі пазнаёміў з новым парламентам.*

Пасля доўгіх перамоў, нарэшце, удалося стварыць кааліцыю. Разам з хрысціянска-дэмакратычнай партыяй ва ўрад увайшлі левая партыя і партыя сацыялістаў.

### СУПРАЦОЎНІЦТВУ МАЦНЕЦЬ!

*Кандыдат на пасаду прэзідэнта Францыі Жак Шырак сустрэўся з Гельмутам Колем.*

Лідэры заявілі, што кааліцыя Бон—Парыж з'яўляецца фундаментам усёй еўрапейскай палітыкі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

